# КАМУНІЗМ І КОСМАС—ПАРОЛЬ ЭПОХІ

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

**Літаратура і МАСТАЦТВА**

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 67 (1704) | Аўторак, 21 жніўня 1962 года | Цана 4 кап



М. С. ХРУШЧОЎ, А. Р. НІКАЛАЕЎ І П. Р. ПАПОВІЧ у Маскве на Унукаўскім аэрадроме 18 жніўня 1962 года. Фота Р. Фёдарава.

# РАДЗІМА ВІТАЕ ГЕРОЯЎ

У радаснай святочнай Маскве сёння ўрачысты дзень — сталіца нашай Радзімы сустракае герояў космасу Андрыяна Нікалаева і Паўла Паповіча. Сваім гістарычным подзвігам яны праславілі Айчыну, упісалі залатымі літарамі ў гісторыю, на якія вялікія здзяйсненні здольны людзі краіны, што пракладвае чалавецтву шлях у камунізм.

З букетамі кветак, з прывітальнымі лозунгамі сабраліся на аэрадроме прадстаўнікі працоўных сталіцы. Прысутнічаюць члены дыпламатычнага корпуса, шматлікія прадстаўнікі савецкай і замежнай прэсы.

Для сустрэчы герояў-касманаўтаў на Унукаўскі аэрадром прыбылі члены Прэзідыума ЦК КПСС, міністры, кіраўнікі партыйных, савецкіх і іншых грамадскіх арганізацый Масквы. Тут жа — сваякі герояў космасу.

Над Масквой, эскартуемы знішчальнікамі, паказваецца серабрысты паветраны карабель «ІЛ-18». Героі прыляцелі ў сталіцу. Самалёт робіць над горадам круг гонару, робіць пасадку і падрульвае да чырвонай дывановай дарожкі.

14 гадзін. Пад гукі авіяцыйнага марша, пад апладысменты і звонкае «ура» героі космасу Андрыян Нікалаеў і Павел Паповіч спускаюцца па трапу і накіроўваюцца да трыбуны.

Гучаць словы рапартаў. Іх слухае Масква, слухае ўся краіна, увесь свет. Прыняўшы рапарт, Першы сакратар ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР М. С. Хрушчоў віншуе касманаўтаў, абдымае іх па-бацькоўску, цалуе. Герояў горача вітаюць усе, хто знаходзіцца на трыбуне, — члены Прэзідыума ЦК КПСС, сваякі касманаўтаў. Героі космасу, М. С. Хрушчоў, члены Прэзідыума ЦК КПСС, бацькі герояў абходзяць калоны прадстаўнікоў працоўных Масквы, вітаюць іх. Грыміць авацыя.

На сонцы палісквае лакам вялікая, апавітая кветкамі машына. У яе садзяцца Андрыян Нікалаеў і Павел Паповіч, маці Андрыяна — Ганна Аляксееўна, бацька і маці Паўла Паповіча — Раман Парфір'евіч і Феадосся Касьянаўна, Марыя — жонка Паўла. У другой машыне — члены Прэзідыума ЦК партыі.

Аўтамабілі адзін за адным пакідаюць аэрадром. Урачысты картэж накіроўваецца па трасе касмічных герояў — ад паветраных варот сталіцы да Ленінскага праспекта і далей на Красную плошчу—у трыццацікіламетравы шлях авацый, славы, сардэчных прывітанняў масквічоў.

Чарада машын выязджае на Ленінскі праспект сталіцы. Усюды партрэты А. Нікалаева і П. Паповіча, на транспарантах надпісы: «Слава героям», «Слава савецкаму народу — пакарыцелю космасу», «Слава доблесным савецкім касманаўтам», «Уперад, да перамогі камунізма».

Яшчэ, здаецца, нядаўна па Ленінскім праспекце рухаліся ў трыумфальным шэсці піянеры раніцы касмічнай эры Юрый Гагарын і Герман Цітоў. Сёння па абодвух баках праспекта сотні тысяч людзей сабраліся вітаць новых пакарыцеляў космасу. Масквічы і на балконах, і ў вокнах дамоў, упрыгожаных кветкамі, чырвонымі палотнішчамі. Бясконцы паток прывітанняў льецца насустрач героям.

Людзі скандуюць: «Ні-ка-ла-еву — слава!»

«Па-по-вічу — слава!»

«Партыі — слава!»

Вось машыны праехалі Акцябрскую плошчу, выехалі на вуліцу Дзімітрава. Уперадзе ўжо відаць чырвоныя крамлёўскія зоркі. Нібы маякі свяцілі яны касманаўтам на іх шляху да подзвігу, што прывёў у захапленне ўсё чалавецтва.

Красная плошча. Сюды ў дні вялікіх агульнанародных урачыстасцей прыходзяць масквічы. І сёння тут сабраліся дзесяткі тысяч працоўных сталіцы.

На будынку ГУМа сцяг з партрэтам Ул.І. Леніна і надпісам: «Уперад, да перамогі камунізма!»

Член Прэзідыума ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС Ф. Р. Казлоў аб'яўляе адкрытым урачысты мітынг у гонар гістарычнага палёту герояў-касманаўтаў. На мітынгу выступілі Андрыян Рыгоравіч Нікалаеў і Павел Раманавіч Паповіч. Гарачай удзячнасцю да Радзімы, якая выхавала іх, да Камуністычнай партыі прасякнуты прамовы герояў-касманаўтаў.

Затым слова даецца Першаму сакратару ЦК КПСС, Старшыні Савета Міністраў СССР М. С. Хрушчову.

Яркая вобразная прамова М. С. Хрушчова многа разоў перапыняецца апладысментамі. Яны асабліва доўга гучаць, калі кіраўнік Савецкага ўрада паведамляе аб тым, што адважным сынам нашай Айчыны Андрыяну Нікалаеву і Паўлу Паповічу прысвойваецца высокае званне Герояў Савецкага Саюза, а таксама слаўнае званне «Лётчык-касманаўт СССР».

Па прыступках на Маўзалей вясёлай чарадой узбягаюць дзеці. Яны ўручаюць букеты кветак Андрыяну Нікалаеву і Паўлу Паповічу, членам Прэзідыума ЦК КПСС, маці Андрыяна Нікалаева—Ганне Аляксееўне, бацьку і маці Паўла Паповіча—Раману Парфір'евічу і Феадоссі Касьянаўне, жонцы Паўла — Марыі, дачцы Наташы.

Ф. Р. Казлоў аб'яўляе мітынг закрытым. Над Краснай плошчай льюцца ўрачыстыя гукі Гімна Савецкага Саюза.

Пачынаецца дэманстрацыя працоўных у гонар новай выдатнай перамогі савецкага народа ў асваенні космасу. Калона ідзе за калонай. Бясконцы паток дэманстрантаў. Яны вітаюць герояў космасу, ленінскі Цэнтральны Камітэт, які вядзе нашу краіну па шляху, намечаным XXII з'ездам партыі, да камунізма — светлай будучыні ўсяго чалавецтва.

## Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР

### АБ ПРЫСВАЕННІ ЗВАННЯ ГЕРОЯ САВЕЦКАГА САЮЗА САВЕЦКІМ ЛЁТЧЫКАМ-КАСМАНАЎТАМ МАЁРУ НІКАЛАЕВУ А. Р. І ПАДПАЛКОЎНІКУ ПАПОВІЧУ П. Р.

**За ажыццяўленне першага ў свеце групавога працяглага палёту ў космас на караблях-спадарожніках «Усход-3» і «Усход-4» прысвоіць званне ГЕРОЯ САВЕЦКАГА САЮЗА з уручэннем ордэна ЛЕНІНА і медаля «ЗАЛАТАЯ ЗОРКА»:**

Лётчыку-касманаўту маёру НІКАЛАЕВУ Андрыяну Рыгоравічу,
Лётчыку-касманаўту падпалкоўніку ПАПОВІЧУ Паўлу Раманавічу.

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Л. БРЭЖНЕЎ.

Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. ГЕАРГАДЗЕ.

Масква, Крэмль.
18 жніўня 1962 г.

## Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР

### Аб прысваенні звання «Летчык-касманаўт СССР» лётчыкам маёру Нікалаеву А. Р. і падпалкоўніку Паповічу П. Р.

**За ажыццяўленне групавога працяглага касмічнага палёту на караблях-спадарожніках «Усход-3» і «Усход-4» прысвоіць званне «ЛЁТЧЫК-КАСМАНАЎТ СССР» грамадзянам Савецкага Саюза:**

Лётчыку маёру НІКАЛАЕВУ Андрыяну Рыгоравічу.
Лётчыку падпалкоўніку ПАПОВІЧУ Паўлу Раманавічу.

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Л. БРЭЖНЕЎ.

Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. ГЕАРГАДЗЕ.

Масква, Крэмль.
18 жніўня 1962 г.

# Прамова таварыша А. Р. НІКАЛАЕВА

Таварышы суайчыннікі, сябры мае!

Дарагі Мікіта Сяргеевіч!

Я шчаслівы з гэтай высокай трыбуны далажыць Камуністычнай партыі, Савецкаму ўраду, асабіста Вам, Мікіта Сяргеевіч, што ганаровае заданне Радзімы выканана, групавы палёт у космас паспяхова завершан.

Поспехі Савецкага Саюза ў космасе не выпадковыя. Яны з'яўляюцца вынікам гераічнай працы савецкага народа, кіруемага нашай роднай Камуністычнай партыяй.

Я бязмерна ганаруся тым, што мне, простаму савецкаму чалавеку, выхаванцу ленінскай партыі, давялося разам з маім сябрам Паўлам Паповічам пракласці новыя сцежкі да зорак.

Мнагадзённы групавы палёт вакол Зямлі, выдатная работа ўсіх сістэм караблёў, надзейная сувязь, дакладны спуск на Зямлю — усё гэта яшчэ адно сведчанне таго, на што здолен наш народ, якіх вялікіх вышынь дасягнулі савецкая навука і тэхніка.

Касмічны карабель «Усход-3» знаходзіўся ў палёце амаль чацвёра сутак і зрабіў больш чым 64 абароты вакол зямнога шара. Карабель прайшоў шлях звыш 2 мільёнаў 600 тысяч кіламетраў, перавысіўшы амаль у 7 разоў адлегласць ад Зямлі да Месяца. У час палёту я вёў запісы ў бартавым журнале. Мне думаецца, што сабраныя навуковыя даныя будуць мець вялікае значэнне для развіцця навукі і наступных палётаў у космас.

Нашы сябры Юрый Гагарын і Герман Цітоў першымі пачалі разведку Сусвету, першымі пачалі асвойваць, так сказаць, касмічную цаліну. Цяпер пачаўся новы этап у асваенні космасу. Настаў час, калі савецкая навука, якая служыць справе міру і прагрэсу, збірае з касмічнай цаліны багаты ўраджай — узбагачаецца каштоўнымі данымі для новых найвялікшых адкрыццяў.

Цяжка перадаць, таварышы, як добра было ўдвух у космасе, якое гэта радаснае пачуццё, якое я адчуў, калі выйшаў на арбіту і аказаўся побач са мной карабель «Усход-4», кіруемы маім касмічным братам Паўлам Паповічам. Сустрэча з сябрам заўсёды радуе, а сустрэча ў космасе асабліва моцна радуе. Як добра лятаць удвух у касмічных прасторах! Калі адчуваеш локаць сябра, і на душы становіцца весялей, і справа спорыцца.

Карабель «Усход-3» чацвёра сутак быў для мяне родным домам, часцінкай нашай любімай Радзімы. Разам з Паўлам Паповічам мы радуемся таму, што ў космасе быў створан першы савецкі калектыў, першае савецкае зямляцтва. У палёце мы былі тысячамі ніцей звязаны з любімай Радзімай, а цёплы, сяброўскі ўдзел і падтрымка ўсяго савецкага народа, партыі і ўрада падзесяцяралі нашы сілы. Пралятаючы над сваёй краінай, над палямі і лясамі, над морамі і гарамі, я разумеў, што за палётам двух караблёў сочаць мільёны людзей, адчуваў іх моцныя абдымкі. І гэта ўсяляла ўпэўненасць у поспех палёту, натхняла нас.

Савецкія людзі ганарацца гіганцкімі поспехамі, дасягнутымі савецкімі вучонымі, інжынерамі, тэхнікамі, рабочымі, чый творчы геній і самаадданая праца дазваляюць заваёўваць усё новыя і новыя вышыні, усё глыбей і глыбей авалодваць таямніцамі прыроды. Яны стварылі цудоўныя касмічныя караблі, паслухмяныя волі чалавека. Гэтак жа як і першыя касманаўты, мы ні на мінуту не сумняваліся ў паспяховым зыходзе палётаў. Нізкі зямны паклон і сардэчнае дзякуй вам, стваральнікі магутнай тэхнікі, ад нас, савецкіх лётчыкаў-касманаўтаў!

Дарагія сябры! Дазвольце мне выказаць самую сардэчную падзяку Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі, Савецкаму ўраду, Мікіту Сяргеевічу Хрушчову за тое, што яны выгадавалі і выхавалі вялікую і дружную сям'ю савецкіх лётчыкаў-касманаўтаў — верных сыноў нашай многанацыянальнай Радзімы.

Прывітальныя тэлеграмы Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, яго радыётэлефонная размова з Паўлам Паповічам і са мной усхвалявалі нас да глыбіні душы, яны памнажалі нашу энергію і ўмацоўвалі волю да перамогі.

Сардэчнае дзякуй Вам, Мікіта Сяргеевіч, за цёплыя, сардэчныя словы, за штодзённую ўвагу, якой акружаны мы, лётчыкі-касманаўты, на зямлі і ў космасе.

Я запэўніваю Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі, Савецкі ўрад, асабіста Вас, дарагі Мікіта Сяргеевіч, што ў славу Айчыны, у славу народа гатоў выканаць любое заданне партыі і ўрада.

Дарагія таварышы! Нашы магутныя касмічныя караблі служаць інтарэсам навукі, справе ўмацавання міру на зямлі.

Наша планета незвычайна прыгожая. Яна і з касмічных вышынь выглядае цудоўна, і трэба зрабіць так, каб яна ніколі не стала арэнай спусташальных войнаў. Зямля павінна быць мірнай, квітнеючай планетай.

Велізарны творчы ўздым, выкліканы ў краіне гістарычным XXII з'ездам КПСС, і прынятая ім велічная Праграма пабудовы камунізма — гэта такі магутны паскаральнік прагрэсу, які дазваляе Савецкай дзяржаве атрымліваць адну перамогу за другой. Групавы палёт у космасе — яшчэ адзін яркі доказ перавагі сацыялізма перад капіталізмам.

Наша Радзіма знаходзіцца ў росквіце сваіх творчых сіл. Савецкі народ цвёрдым і ўпэўненым поступам ідзе да светлай мэты — камунізма. І няма ў свеце сілы, здольнай спыніць трыумфальнае шэсце савецкіх людзей да новых поспехаў у камуністычным будаўніцтве.

Дарагія масквічы! Сардэчна дзякую вам за гэту незабыўную сустрэчу, наладжаную нам у Дзень савецкага паветранага флоту. Радасна ўсведамляць, што і мы, савецкія касманаўты, уносім свой працоўны ўклад ва ўмацаванне магутнасці сацыялістычнай дзяржавы.

Няхай жыве і квітнее наша любімая і дарагая сацыялістычная Айчына!

Няхай жыве вялікі савецкі народ — будаўнік камунізма, нястомны барацьбіт за справу міру ва ўсім свеце!

Слава ў вяках Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і яе ленінскаму Цэнтральнаму Камітэту на чале з Мікітам Сяргеевічам Хрушчовым!

**(Прамова таварыша А. Р. Нікалаева неаднаразова перапынялася працяглымі апладысментамі).**

# Прамова таварыша П. Р. ПАПОВІЧА

Дарагія таварышы-суайчыннікі!

Дарагія сябры!

Дарагі Мікіта Сяргеевіч!

На маю долю выпаў высокі гонар удзельнічаць у першым групавым палёце касмічных караблёў. Рад далажыць роднай Камуністычнай партыі, Савецкаму ўраду, усяму савецкаму народу, што заданне Радзімы выканана. Намечаная праграма даследаванняў ажыццёўлена поўнасцю. Карабель-спадарожнік «Усход-4» паспяхова завяршыў свой палёт гэтак жа, як і карабель «Усход-3», пілатуемы маім сябрам Андрыянам Нікалаевым.

Карабель «Усход-4» знаходзіўся ў космасе 71 гадзіну, абляцеў 48 разоў вакол нашай планеты, прайшоў адлегласць каля 2 мільёнаў кіламетраў і ў дакладна вызначаны час вярнуўся на родную савецкую зямлю. Адкрыта кажучы, палёт мог бы працягвацца і далей: сістэма кіравання карабля і ўсе бартавыя прыборы дзейнічалі безадмоўна. Самаадчуванне было выдатнае. Мяркуйце самі: я выканаў зададзеную праграму, а ў вольны час любаваўся прыгажосцю Сусвету і спяваў любімыя песні.

Не будзе перабольшаннем сказаць, што ў космасе я вёў зусім зямны лад жыцця з маленькай папраўкай на бязважкасць. Спаў моцна, але на работу не спазняўся. Не забываў снедаць, абедаць і вячэраць. Работу, прадугледжаную праграмай, чаргаваў з заняткамі гімнастыкай і адпачынкам.

Мне давялося разам з Андрыянам Нікалаевым прадаўжаць тую справу, пачатак якой паклалі ў мінулым годзе мае сябры лётчыкі-касманаўты Юрый Гагарын і Герман Цітоў. Але павінен прама сказаць, што нам было значна лягчэй, чым першым савецкім лётчыкам-касманаўтам. Кожны з іх у адзіночку наведаў космас, а нас было двое. Калі ведаеш, што побач сябар, зусім інакш сябе адчуваеш у космасе. Мы часта абменьваліся думкамі і нават спявалі дуэтам.

Сваю задачу мы бачылі ў тым, каб зрабіць яшчэ адзін крок у асваенні касмічнай прасторы, у авалоданні магутнымі сіламі прыроды ў імя дабрабыту і шчасця людзей. Сардэчна дзякую Цэнтральнаму Камітэту партыі, Савецкаму ўраду, Вам, дарагі Мікіта Сяргеевіч, за аказанае мне высокае давер'е зрабіць касмічны рэйс на караблі «Усход-4».

Палёт у космас узбагаціў мяне яркімі, незабыўнымі ўражаннямі. Спатрэбілася б многа часу, каб расказаць аб іх з усімі падрабязнасцямі. Але я выкажу толькі самае галоўнае, што перапаўняе маё сэрца: гэта пачуццё гордасці за нашу вялікую сацыялістычную Радзіму, за нашу партыю, за савецкі народ.

Касмічныя караблі даюць наглядное ўяўленне, якіх выдатных поспехаў дасягнула наша краіна. Справядліва кажуць: сацыялізм гэта і ёсць тая стартавая пляцоўка, з якой наша краіна паспяхова запускае ў космас свае магутныя касмічныя караблі. Мне хацелася б толькі дадаць, што побач з касмічнымі караблямі ў нас ёсць і такі магутны карабель, з борта якога вельмі добра відаць не толькі сучаснае, але і будучыню нашай краіны, усяго чалавецтва. Гэты магутны карабель —Праграма Камуністычнай партыі. Ён ужо выведзен на арбіту нашай эпохі. Ён ужо аказвае магутнае ўздзеянне на ход сусветнага грамадскага развіцця.

Савецкі народ самаадданa працуе, ажыццяўляючы вялікія прадвызначэнні нашай партыі, прынятыя на яе XXII з'ездзе. Плён народных намаганняў можна бачыць сёння ўсюды, у тым ліку ў стварэнні магутных касмічных караблёў.

Горача дзякую і моцна абдымаю ўсіх, хто прымаў удзел у стварэнні цудоўных касмічных караблёў, усіх, хто збіраў нас у дарогу і забяспечыў нам неабходныя ўмовы для выканання задання!

Сёння, у Дзень паветранага флоту, мне асабліва прыемна выказаць пачуцці сыноўняй падзякі савецкай авіяцыі, у радах якой я вырас як лётчык. Ганаруся гэтым званнем. Шлях у космас ляжыць праз авіяцыю. Вялікае дзякуй маім настаўнікам і выхавацелям, якія дапамаглі мне стаць лётчыкам і тым самым адкрылі дарогу ў касмічныя далячыні.

Мы, савецкія лётчыкі-касманаўты, штурмуем космас не ў адзіночку, а як дружны згуртаваны калектыў, які добра разумее сваю адказнасць перад савецкім народам, перад нашай сацыялістычнай Радзімай, перад Камуністычнай партыяй. Камуністы з'яўляюцца душой нашага дружнага згуртаванага калектыву. Як сакратар партыйнай арганізацыі лётчыкаў-касманаўтаў запэўніваю Цэнтральны Камітэт нашай партыі і Савецкі ўрад, што лётчыкі-касманаўты гатовы і ў далейшым выконваць любыя заданні.

Таварышы! Радасна ўсведамляць, што нашы палёты ў космас маюць навуковыя мэты і адпавядаюць інтарэсам усяго чалавецтва. Народы свету здолеюць як належыць ацаніць гэты факт, у іх жа ёсць прадмет для параўнання: за акіянам ворагі міру раздуваюць ваенную істэрыю, імкнуцца ператварыць касмічную прастору ў атамны палігон.

Дарагія таварышы!

У палёце мы адчувалі пастаянныя клопаты Радзімы, усіх савецкіх людзей. Вашы прывітальныя тэлеграмы, дарагі Мікіта Сяргеевіч, вашы добрыя бацькоўскія словы, выказаныя ў размове па радыётэлефоне, натхнялі нас і надавалі нам новыя сілы для паспяховага ажыццяўлення складанага касмічнага палёту.

Сардэчнае дзякуй Вам, дарагі Мікіта Сяргеевіч, за ўвагу і клопаты!

Вялікае дзякуй, дарагія таварышы-масквічы, за цёплую, гасцінную сустрэчу!

Няхай жыве наша вялікая сацыялістычная Радзіма—апора міру, светач і надзея чалавецтва!

Няхай жыве наш вялікі савецкі народ — будаўнік камунізма!

Слава Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і яе ленінскаму Цэнтральнаму Камітэту на чале з Мікітам Сяргеевічам Хрушчовым!

**(Прамова таварыша П. Р. Паповіча неаднаразова перапынялася працяглымі апладысментамі).**

# ПРЫЁМ У КРАМЛІ

**18 жніўня Цэнтральны Камітэт КПСС, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР, Савет Міністраў СССР наладзілі ў Вялікім Крамлёўскім палацы прыём у гонар беспрыкладнага подзвігу савецкай навукі і тэхнікі, у гонар герояў-касманаўтаў А. Р. Нікалаева і П. Р. Паповіча, якія ажыццявілі першы ў свеце групавы палёт у космасе.**

**На прыёме былі Першы сакратар Цэнтральнага Камітэта КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР М. С. Хрушчоў, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Л. І. Брэжнеў, іншыя кіраўнікі партыі і дзяржавы, міністры СССР і РСФСР, старшыні Дзяржаўных камітэтаў, члены і кандыдаты ў члены Цэнтральнага Камітэта КПСС, маршалы Савецкага Саюза, вядомыя дзеячы навукі і культуры, наватары маскоўскіх прадпрыемстваў і будоўляў.**

**На прыёме былі таксама зарубежныя госці.**

**У час прыёму былі зачытаны Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прысваенні А. Р. Нікалаеву і П. Р. Паповічу звання Героя Савецкага Саюза і звання «Лётчык-касманаўт СССР».**

**Л. І. Брэжнеў уручыў касманаўтам залатыя медалі герояў і значкі «Лётчык-касманаўт СССР».**

**М. С. Хрушчоў абвясціў тост у гонар узнагароджаных.**

## ТРЫУМФ

Мне здаецца, што ў гэтыя знамянальныя для ўсяго чалавецтва дні спяваюць усе струны нашай матухны-планеты, якую мы называем Зямлёю.

У кожнага савецкага чалавека добра, радасна на душы, — наша навука, тэхніка ўжо робяць цуды, казку ператвараюць у яву. Андрыян Нікалаеў і Павел Паповіч— жывы, яскравы доказ таго, як наш народ можа выхаваць такіх сапраўдных герояў, думаючы пра якіх хочацца сказаць, што наша савецкая штодзённасць з'яўляецца штодзённасцю іменна гераічнай.

Дасягненні савецкай навукі з'яўляюцца трыумфам для ўсяго чалавецтва, вялікай зарукай яго будучыні.

Слава нашым вучоным, усім работнікам дзеля вялікай, шчаслівай будучыні ўсіх людзей на Зямлі.

Слава Нікалаеву і Паповічу! Іх мужнасць — гэта мужнасць людзей, народжаных сацыялістычнай эпохай!

**Пілін ПЕСТРАК.**

## ПОДЗВІГ

На ўсіх мовах зямлі паўтараюцца словы: «Здзіўляюча!», «Небывала!» Нам хочацца дадаць да гэтых слоў захаплення ў сувязі з беспрыкладным подзвігам новых капітанаў савецкіх касмічных караблёў яшчэ адно слова: «Заканамерна!»

Так заканамернасць подзвігу — вось залатое правіла нашай рэчаіснасці. Юрый Гагарын, Герман Цітоў — учора. Андрыян Нікалаеў, Павел Паповіч — сёння. А заўтра — эскадрыллі касмічных караблёў, скіраваныя да зорных вышынь.

Подзвіг у небе — гэта подзвіг на зямлі, подзвіг народа, які партыя Леніна вядзе па светлай трасе камунізма.

Аб чым думаем мы цяпер у сваім народным тэатры? Думаем аб тым, што наша мастацтва, наш савецкі тэатр у даўгу перад героямі космасу. Чакаем п'есы, якая расказала б пра веліч подзвігу і характар герояў, што штурмуюць неба. Кожны з нас, удзельнікаў народнага тэатра, шчаслівы быў бы іграць ролю ў такой п'есе.

**І. САКОЛЬСКІ,** мастацкі кіраўнік Пінскага народнага тэатра, заслужаны дзеяч культуры БССР.
**В. КУНІЦА,** артыстка народнага тэатра.
**І. АГРАНОЎСКІ,** настаўнік, член савета Дома культуры.

## „Космас-8“ у палёце

18 жніўня 1962 года ў Савецкім Саюзе зроблен паспяховы запуск на арбіту чарговага штучнага спадарожніка Зямлі «Космас-8». На спадарожніку ўстаноўлена навуковая апаратура, прызначаная для працягу даследавання касмічнай прасторы ў адпаведнасці з праграмай, аб'яўленай ТАСС 16 сакавіка г.г.

Паводле папярэдніх даных, перыяд абарачэння спадарожніка роўны 92,93 мінуты, вугал нахілу арбіты да плоскасці экватара 49 градусаў. Максімальнае аддаленне ад паверхні Зямлі складае 604 кіламетры. Мінімальнае аддаленне — 256 кіламетраў.

Радыётэлеметрычная інфармацыя, прынятая з борта спадарожніка, сведчыць аб нармальным функцыяніраванні ўсіх бартавых сістэм.

